# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 38671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1668) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 1 МАЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.


ВЯСНА Ў БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ. ФОТА ВОЙЦЕХА РЫПАЖЭЎСКАГА.




**(РАЗМОВА З ЧЛЕНАМ ЦК ПАРП ВІКТАРАМ АНТАНЮКОМ)**

Спытаў бацька ў сыноў, каторы з іх астанецца гаспадарыць? Наймалодшы сын Яўген адмовіўся адразу, яго не маніла сялянская прафесія.

Сярэдні сын Пятро сказаў: „Моладзь цяпер у гарады ўцякае і там сабе лепшую долю шукае. Я таксама паеду ў Беласток, там буду жыць і працаваць!“

А найстарэйшы сын Віктар не мог сказаць, што адыдзе ад бацькоў, што аставіць іх адных у Злотніках. Ён ведаў, што на вёсцы такі ўжо звычай, традыцыя, што найстарэйшы сын астаецца пры бацьках. Любіў ён сваю вёску, зжыўся з яе жыхарамі ад дзяцінства. Цікавіла яго таксама рамяство столяра, дык закончыў рамесную школу ў Харошчы.

Час імчаўся хутка і прыйшла вайсковая служба. Віктар адбываў яе ў Торуні. Стаўся ён узорным салдатам, быў прыняты ў рады ПАРП. Але вось без дазволу дамоў не паедзеш, а дамоў хацелася... Хацелася наведаць бацькоў і сваю каханую Марысю, якая жыла ў Заечках, а працавала ў грамадскай радзе нарадовай у Багданках. Разлука ўмацоўвала пачуцці, да якіх ён меў поўнае юнацкае права і якое так прыгожа выказана ў народнай беларускай песні: „Калі ты ў арміі не служыў, дык не кахай дзяўчыны“.

Калі набліжаўся канец вайсковай службы, камандзіры захвоцілі Віктара да звыштэрміновай службы. Але на не надта доўга. Цягнула яго ў сваю старонку, да сваёй любай. І падчас аднаго з водпускаў ён ажаніўся, а праз няцэлы год вярнуўся дахаты на радасць жонцы і бацькоў. Малады і энергічны Віктар Антанюк вырашыў працаваць на гаспадарцы і даязджаць да працы ў беластоцкую сталярню на вуліцы Манапалёвай, якая дала пачатак Беластоцкім фабрыкам мэблі. Там на працягу трох ка-

(Працяг на стар. 6)

# НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ!

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Генадзь Літнеўскі




Сяргейка прыйшоў са школы, папалуднаваў і бягом на луг, дзе хлопцы збіраліся пагуляць у мяч. Праходзячы праз панадворак, ён спыніўся паглядзець, як дзядуля пілуе дошкі са старога плота. Дзядуля пілуе, а горка дроў расце: былі дошкі, сталі дровы.

— Ідзеш гуляць? — пытаецца дзядуля.

— Ага. З хлопцамі ў мяч гуляць будзем.

— А ўрокі?

— Паспею. Нам на заўтра мала задалі.

— Добра, — гаворыць дзядуля. — Тады знясі пад паветку тое, што я напілаваў.

— Гэта ўсё? — спалохаўся Сяргейка. — Тут жа работы да вечара.

— А гэта гледзячы як насіць, — усміхаецца дзядуля. — Калі па адной дошчачцы ды чарапашыным крокам дык і да заўтра. А калі па-сапраўднаму, дык за дваццаць мінут справішся, калі не лянівы.

— А ці ж я лянівы? — здзівіўся Сяргейка.

— А ці ж не? — разззлаваўся дзядуля. — Калі б не лянівы, дык ужо насіў бы...

Уздыхнуў Сяргейка ды ўзяўся за работу. І адразу ж палец трэскаю застраміў. За другім разам спатыкнуўся і ўвесь ахапак дроў з рук зваліўся. А за трэцім разам заўважыў, што пакуль ён чатыры палены занясе, дзядуля два новых напілуе.

„Доўгая гэта песня!" — падумаў Сяргейка мамінай прыказкай і засумаваў: не ўдасца яму сёння ў мяч пагуляць. Але і гультаём каб яго называлі — таксама не хочацца.

А з лугу ўжо чуваць, як шумяць хлопцы, як гулка стукае мяч. Вунь і відаць, як высока ўзлятае ў неба. Мабыць, нехта ад варот ўдарыў... А тут нясі гэтыя дровы.

— Ты чаго нахмурыўся? — пытаецца дзядуля.

Маўчыць Сяргейка. Толькі губы яшчэ больш надзьмуў.

Глядзеў, глядзеў на яго дзядуля, усміхнуўся і кажа:

— А што, калі б гэта не дровы былі, а снарады?

— Якія снарады? — не разумее Сяргейка.

— Звычайныя, артылерыйскія. Ты ведаеш, кім я на вайне быў?

— Ведаю, артылерыстам, — адказаў Сяргейка, успамінаючы дзядулевы расказы.

— Дык як? Бой кіпіць, фашысты атакуюць, а ў нас снарадаў малавата. Машына з боепрыпасамі нейкіх паўкіламетра не даехала.

— Як гэта — не даехала? — недаверліва жмурыцца Сяргейка.

— У рове засела. Шафёр ранены або асколак трапіў у матор. На вайне ўсялякае бывае. Вось мы і бегаем па снарады. Туды бегам і назад — нагружаныя — бегам...

Дзядуля памаўчаў, відаць, нешта прыпамінаючы, і працягваў:

— Вось я і думаю, ці вытрымаў бы мой унук у такой справе? Ты ўяві сабе, што дровы — гэта снарады, а там, дзе паветка, — наша батарэя вядзе бой...

Не паспеў дзядуля дагаварыць, як Сяргейка схапіў ахапак „снарадаў" і пабег пад паветку. Потым назад... І не бегаў, а лётаў...

Недзе далёка завуркатаў трактар... Але не, не трактар — гэта танкі. А чым ад іх адбівацца? Сяргейка кінуўся па „снарады". Дзядуля сядзеў на калодзе, каля якога толькі што былі дровы, і адпачываў.

— Дзедку! Чаго ты сядзіш?! — крыкнуў Сяргейка. — Там танкі!

— Што? — уздрыгануў дзядуля. — Якія танкі?

— Фашысцкія! На батарэю ідуць. Снарадаў трэба больш! Гэтых не хопіць! — крыкнуў Сяргейка.

Дзядуля пачухаў патыліцу і зноў узяўся за пілу...

Хутка ўсё было скончана. Каля дзядулі не засталося ані трэскі, толькі бялела пілавінне. Над полем боя слаўся дым — гэта гарэлі „тыгры" і „фердынанды", а яшчэ мінулагодняя трава, якую паліў у канцы агарода дзядзька Зміцрок. Змучаны Сяргейка сядзеў побач з дзядулем.

— Ну што, унучак, адбілі атаку... Ты ў мяне малайчына, не падвёў! — сказаў дзядуля ласкава і прыціснуў да сябе ўнука.



У час перапынку ў школе ў Барысаўцы. Настаўніца Тэіса Хіліманюк паказвае першакласнікам новыя беларускія кніжкі і прапануе пазнаёміцца з імі. Фота Я. Чэрнякевіч.

### ПЕРШАМАЙ
(Урывак)

Вясна!.. Вясна!.. Ўдалі
над краем
Зара вяргіняю цвіце.
Мы гэты дзень
назвалі Маем, —
Дзень светлай радасці
людзей.

Мінулі грозныя навалы,
Парваны путы-кайданы,
І мы магутным караванам
Вітаем моладасць вясны.

Вітаем песняй вызвалення,
Адвечнай казкаю жыцця.
Няхай на славу пакаленням
Над краем зоры шалясцяць.

Няхай цвітуць, не адцвітаюць
Шыпшыны сонечных
зарніц!..
Няхай ад берага да краю
Гамоняць хвалі ў цішыні!..

Паўлюк Трус

### ХЛОПЧЫК ДРЭЎЦА ПАСАДЗІЎ

Дрэўца пасадзіў ля школы
Віця,
Дрэўца першае ў жыцці.
Чарназём з далоняў сваіх
выцер:
— Ну, вялікае расці!
Даганяй вясной
сяброў зялёных, —
Бачыш, тут які прастор?
І кіўнуў яму галінкай
клёнік:
— Я прымаю дагавор.
З навінай прынёсся
лёгкі вецер
Да дубоў зарэчных,
Ніў.
Крышку стала
прыгажэй на свеце:
Хлопчык дрэўца пасадзіў.

Аляксей Пысін

Анатоль Грачанікаў

### БАЦЬКОЎСКІ ПАРОГ

Чакае нас
Мноства дарог.
Нас вабяць
І далі і высі.
Але на бацькоўскі парог
Абавязкова
Вярніся.

Каб сэрцам
Глыбока адчуць,
Як водар
Нясуць медуніцы,
Як сосны
Над кручай гудуць,
Як звоняць
Світальна крыніцы.

(Працяг на стар. 10)

З суседскага агародчыка

## СААЎТАРЫ

— Чаму пад тваім артыкулам ажно тры подпісы? — зазірнуўшы ў мае паперы, спытала жонка.

— Саўтары, — растлумачыў я.

— Якія яшчэ саўтары? — здзівілася яна. — Адкуль? Я ж ведаю, колькі ты над ім карпеў. Ніхто не памагаў.

— Зразумей, інакш нельга, — даказваю ёй. — Усе так робяць. Гэта подпіс майго шэфа. Як буду глядзець яму ў вочы, калі не вазьму ў саўтары?

— А другі подпіс?

— Адказны таварыш з міністэрства. Без яго артыкул проста не надрукуюць.

— Дык во ў чым справа... — задумалася жонка і раптам рашуча заявіла: — Бяры і мяне ў саўтары.

— Цябе? — аслупянеў я. — На якой падставе?

— Як на якой? Хто табе абеды гатаваў? Хто бялізну мыў? Наогул, хто стварыў умовы да творчай працы? Ды без мяне ў цябе ніякага артыкула не было б.

Пасля сямейнай сцэны пад артыкулам з'явіліся яшчэ два подпісы. Жончын і цешчын. Чаму цешчын? Ды таму, што жывем у яе кватэры...

**Сцяпан Кірэйчук**



Якія шарыкі купіў Міколка?

Шарык з васьмю папярочнымі палоскамі знаходзіцца на верхнім малюнку пад вялікім, які нагадвае шахматную дошку.

# НІЎКА



## ПАЗНАЎ

— Мая лінія! — ганарыўся Змеявік самагоннага апарата, прыкмячаючы, як ідзе п'яны.

## У ХМУРНУЮ ПАГОДУ

— Што вы можаце сказаць пра сонечную сістэму?

— Сістэма — добрая, але выканаўцы кепскія.

**ГУМАР З БАРАДОЮ**

## ПАКАЗАЎ НА ДЗВЕРЫ

— Запрапанаваў я нашаму каменданту хабар, дык ён мне на дзверы паказаў...

— Няўжо выгнаў?

— Не... Проста даў зразумець, што там за дзвярыма могуць нас падслухаць.



## ДАПАМОГ

Стаяць на вуліцы двое задрыпанцаў. Размаўляюць. Пятро лузае семачкі, Іван курыць.

— Іван! — раптам спахапляецца Пятро. — Патрымай пінжак і семачкі. Пабягу, вондзечкі майго суседа лупцуюць.

Праз нейкі час прывалакаецца Пятро і, шапялявячы, кажа:

— Давай, Іван, пінжак, а семачкі можаш забраць сабе, бо мне ўжо няма чым іх лузаць.

## РАЗМОВА

— Ці вы чулі, што Зося заручылася з Барысам?

— Што вы кажаце? Калі гэта праўда, то мушу Зосю павіншаваць, а як няпраўда, то павіншую Барыса.

**Атрымаў узнагароду. Цяпер яму засталося апраўдаць давер.**

На шырокім свеце

## СУСЕД

Сустрэў я свайго колішняга суседа Ахмецяна.

— Як у новай кватэры? — пытаю. — Як здароўе Хубіямал-ханум?

— Нармальна! — адказвае той.

— А як з суседам? Пашанцавала?

Ахмецян аж закашляўся:

— Сусед... Кахі-кахі! Нібы і непаганы сусед. Вясёлы, спагадлівы. Толькі крыху дзіўны — калі ў мяне госці, то ён трукае ў сценку і патрабуе прыпыніць шум-гам. Ну, і вядома, у гасцей адразу прападае настрой.

Праз месяц мы ўбачыліся зноў.

— Як там з суседам?

— Нармальна! — гэтым разам весела адказаў Ахмецян. — Усё ўладкавалася. Цяпер не псуе нам настрой.

— І як гэта табе ўдалося?

— Вельмі проста: як толькі госці на парог, я адразу запрашаю і суседа.

*Марсель Салімаў*

## ПЕРАВЫКАНАЎ ПЛАН

Як толькі маці вярнулася дамоў з работы, сын падбег да яе са сшыткам у руках і паказвае:

— Мама, глядзі, я выканаў ажно два прыктыкаванні па пісьме.

Маці кажа:

— Дык вам заўсёды задавалі адно!

— А гэта я вырашыў перавыканаць план.

З „Весніка Задрыпоніі"

## НОВАЕ Ў СЕРВІСЕ

Новы крок у палепшанні абслугоўвання пакупнікаў зроблены ва універсаме горада Хамавічы. Цяпер прадаўшчыцы замест „Дзякуй" гавораць „Вялікае дзякуй".

## ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

Музей пад адкрытым небам працавае працаваць у мястэчку Хлюпкевічы. Цікава, ці ў гэтым горадзе будаўнікі, урэшце, палатаюць яго дах?



## КНІГАЛЮБКА

Пакахаў стары прафесар
Маладую Жанну.
Пацягнула Жанна дзеда
Па ўсіх рэстаранах.
То ў кафэ сядзяць, то ў бары
І зімой, і ўлетку.
Як заведзены, дзед шпарыць
Пра сваю „сусветку":
— У мяне славутых кніжак
Поўная кватэра!
Шакалад Жаннета ліжа,
Злая — як пантэра.
— Ёсць паэзія і проза,
Рымляне і грэкі.
Пакажу табе Спінозу,
Пакажу Сэнэку.
Аблізнулася Жаннета,
Бычцам кот на мышку:
— Паказаў бы лепей мне ты
Ашчадную кніжку!

**Паўло Глазавы**



# Курёзы

## ПАТРАБУЕЦЦА ВАКЦЫНА

У Францыі небяспечны характар прымаюць дзве эпідэміі, піша ў парыжскай „Монд" Хрысціян Бонэ, былы міністр. Першая — фанатычная страсць да сходаў, семінараў, форумаў, калёквіумаў, сімпозіумаў і ўсіх іншых дыскусій. Прысвечаны ім час немінуча вылічваецца з часу, які мог бы быць адведзены для прынцыпу рашэнняў.

Другая эпідэмія — паператворчасць. Усе тыя з прадстаўнікоў вышэйшай улады (розных рангаў), хто не мае нагоды выступіць па радыё ці тэлебачанні, лічаць сваім абавязкам рассылаць розныя цыркуляры, указанні, вылузваюцца, каб паявіўся хоць які-небудзь закон або дэкрэт, звязаны з іх імем. Аўтар нагадвае аб стогадовым юбілеі Інстытута Пастэра і прапануе тэрмінова „вынайсці вакцыну" супраць гэтых дзвюх эпідэмій.

## ЦЫРУЛЬНІК І ВАЛЬТЭР

Нейкі цырульнік Эсташ напісаў трагедыю ў вершах і адправіў яе Вальтэру, пачаўшы пісьмо словамі: „Дарагі сабрат..." У зваротным пісьме Вальтэр чатыры разы паўтарыў адну і тую ж фразу: „Дарагі Эсташ! Рабіце парыкі, рабіце парыкі, рабіце парыкі, рабіце парыкі!.."

Цырульнік паказаў гэтае пісьмо сваім сябрам, сказаўшы ім:

— Пэўна, з Вальтэрам усё скончана. Паглядзіце, як ён паўтараецца!..



**Цябе назвалі дурнем? Не гарачыся — падумай. Калі ўгадалі, тады абражайся.**